Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№42 (602) 20 кастрычніка 2011 года

Кошт свабодны.



Photo ByMedia.net

Докшыцкі раён

# На балоце ... сам міністр

■ Станіслаў Раманчук

**У прамысловых прадпрыемстваў, як і ў людзей, бываюць светлыя і сумныя перыяды жыцця.**

Яшчэ некалькі гадоў назад ледзь "дыхаў" на практычна зношаным абсталяванні торфабрыкетны завод у вёсцы Круляўшчызна Докшыцкага раёна. Аднак запасы торфу ў ваколіцах тут велізарныя, і ў 2007 годзе ўрад Беларусі прыняў разумнае рашэнне перадаць вытворчасць новым гаспадарам, філіялу "Докшыцырайгаз". Зараз па сутнасці новы торфаперапрацоўчы завод стала проста не пазнаць, і невыпадкова на яго базе днямі прайшоў рэспубліканскі семінар-нарада па далейшым развіцці галіны на чале з міністрам энергетыкі Беларусі Аляксандрам Азярцом. Газавікі "Віцебскаблгазу" ўклалі толькі ў пабудову сучаснага заводскага корпуса 16 млрд. рублёў і яшчэ ў 3 разы большую суму ў тэхпераўзбраенне вытворчасці. Галоўнае, што запасаў сыравіны хопіць наперад яшчэ на паўстагоддзя працы. За кароткі час завадчане наладзілі адгрузку фасаваных карысных грунтоў і торфасумесяў з дабаўкамі і мікраэлементамі ў 12 краін Еўропы. З пачатку года экспартныя пастаўкі перавысілі сёлета ўжо 1,3 млн. долараў. Заробкі ў працаўнікоў выраслі ў 3 разы, як і прадукцыйнасць працы. Калі раней не вылазілі са страт, то цяпер прыбытак набліжуўся да 350 млн. рублёў. Падчас практычнай часткі семінара з удзелам міністра ўдзельнікі на тарфяным полі ўбачылі сучасную высокапрадукцыйную тэхніку па здабычы торфу.



Пастаўскі раён

# Замацаваліся на казахскім рынку

■ Кастусь Александровіч

**У наш час, каб нармальна працаваць, вытворцам трэба актыўна ўкараняць навейшыя тэхналогіі, сачыць за патрэбамі розных рынкаў і туды прабівацца.**

У такім накірунку ў Паставах апошнім часам стараецца дзейнічаць і ААТ "Паставы-мэбля", якому ўдалося летась амаль у 2 разы павялічыць адгрузку сваёй прадукцыі на экспарт. Сёлета завадчанам зноў атрымалася выйграць буйны міжнародны тэндар па абнаўленні мэблі ўсіх кабінетаў біялогіі для школ Казахстана. Пастаўчане апярэдзілі не толькі мясцовых вытворцаў, але і шэраг буйных расійскіх мэблевых фірм, прапанавалі самыя прыцягальныя ўмовы. Казахскі бок яшчэ летась пераканаўся, што беларускія наборы вырабаў для школ і дашкольных устаноў сусветнай якасці, да таго ж не вельмі дарагія. Агульная сума заключанага кантракту сёлета перавысіла 1,1 мільёна долараў. Праўда, каб не падвесці партнёраў, пастаўчане перайшлі на штодзённую працу ў 3 змены. Штодзень з райцэнтра адпраўляецца ў Казахстан па некалькі аўтапаяздоў з наборамі парт, шафаў, вучнёўскіх дошак і стэлажоў. Усяго будзе 24 такія вялікія адгрузкі. Дарэчы, цікавасць да пастаўскай школьнай мэблі праяўляюць і партнёры з Туркменістана, куды раней таксама адгружалася розная мэбля. Адначасова на прадпрыемстве пачалі выпускаць і навінку – драўляныя зрубленыя дамы, імі цікавяцца ў Прыбалтыцы.

Віцебская вобласць

# "Восеньскі карагод" маладых

■ Чэслаў Якубовіч

**Жыхароў абласнога цэнтра апошнім часам не здзівіць правядзеннем традыцыйных восеньскіх ярмарак-кірмашоў.**

Аднак адна з апошніх такіх ярамарак, праведзеных у Віцебску паблізу мясцовага Палацу спорта пад назвай "Восеньскі карагод", пабіла ўсе рэкорды папулярнасці па прычыне самых танных цэн. Дарэчы, гэты кірмаш быў спецыялізаваны, паколькі выстаўлялі сваю прадукцыю навучэнцы розных установ адукацыі Віцебскай вобласці. Вельмі добра падрыхтаваліся да ярмаркі навучэнцы Глыбоцкага прафтэхліцэя сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны прывезлі ў абласны цэнтр сваю адметную і рэдкую прадукцыю. У астатніх удзельнікаў кірмашу проста не было, як у глыбачан, патрэбных гараджанам на дачах саджанцаў пладовых дрэў. Віцябляне ішлі за пакупкамі з задавальненнем і ахвотна набывалі гэтую прадукцыю па прымальных цэнах. Таксама нарасхоп ішла на продаж і іншая сельгаспрадукцыя глыбачан: бульба, садавіна і гародніна прадаваліся па даступных цэнах. На гэтым кірмашы ўвагу пакупнікоў займелі і гадаванцы фермы Відзаўскага прафтэхкаледжа з Браслаўскага раёна. Гараджане ахвотна спыняліся ля клетак з трусамі элітных парод. Таксама прадстаўнікі азёрнага краю здзівілі сваімі таннымі гарбузамі вялізных памераў і смачнай юшкай, зваранай тут жа на гарадской вуліцы ў вялізным катле. Гараджане з задавальненнем закупілі на зіму бульбу, буракі і іншыя неабходныя прадукты харчавання.

# Лічба нумара

**1,1 млн. тон** угнаеняў штогод – такой плануецца магутнасць новага калійнага камбіната ў Беларусі, які сабралася пабудаваць у нас брытанская кампанія JMC Global Energy plc. У друку ўжо паведамлялася, што належыць яна вядомаму расійскаму алігарху Міхаілу Гуцэрыеву. Ён і спецыялісты вялі адпаведныя перамовы па гэтай здзелцы з беларускім урадам на працягу 1,5 года. Нарэшце сёлета 5 кастрычніка ў Мінску абодва бакі падпісалі дагавор аб стварэнні новай кампаніі пад назвай "Славянскі калій".

Праўда, шэраг пытанняў наконт гэтага буйнога інвестпраекта застаюцца, бо не праводзіўся абавязковы тэндар за права атрымаць у распрацоўку буйное Старобінскага радовішча калійных соляў, сапраўдны стратэгічны рэзерв Беларусі. Па запасах соляў наша краіна знаходзіцца на 3-м месцы ў свеце, саступаючы толькі Канадзе і Расіі. Ды і ў гранды айчыннай эканомікі ААТ "Беларуськалій" можа з'явіцца сур'ёзны канкурэнт. Як падаецца, падштурхнулі да гэтага кроку шэраг фактараў, найперш няпростая сітуацыя з валютай і эканамічны крызіс.

Аднак ва ўрадзе РБ ведалі, з кім вядуць справу. Міхаіл Гуцэрыеў з'яўляецца досыць паспяховым і здольным расійскім бізнесменам. Ён ужо кіраваў у нас кампаніяй "Слаўнафта", дапамог правесці тэхпераўзбраенне Мазырскага НПЗ, хоць і не атрымаў над гэтым прадпрыемствам права поўнага кантролю. Зараз ён укладае ў амбіцыйны праект каля 1,5 млрд. долараў, не лічачы яшчэ 250 мільёнаў першапачатковых укладанняў да пачатку пабудовы шахты і самога камбіната. Па дасягнутых дамоўленасцях камбінат на Старобінскім радовішчы соляў на поўдні Мінскай вобласці ў Любанскім раёне можа з'явіцца да 2017 года.

Расіяне жадаюць узвесці сучасную вытворчую базу нават раней, да 2015 года, і плануюць весці будаўніцтва ў некалькі працоўных змен. Пабачым, як гэта ў іх атрымаецца, бо той жа "Беларуськалій" будаваўся больш за 20 гадоў. Магчыма, інакш за савецкім часам было нельга пры тагачасных тэхналогіях. Але зараз брытанская кампанія абяцае стварыць на гэтай вытворчасці 1,5 тысячы работчых месц і дадаткова яшчэ каля паўтысячы для абслугоўваючага персаналу і спецыялістаў. Кіраванне камбінатам яго гаспадар абяцае даверыць беларусам, і яшчэ 70 % штату таксама заняць беларусамі.

Як бы там ні было, а пакуль прагладваецца своеасаблівы ва ўмовах беларускай спецыфікі праект партнёрства прыватніка і дзяржавы. У акулы расійскага бізнесу ёсць намеры прадаваць выробленую прадукцыю і праз вядомую фірму "Беларуская калійная кампанія". У выпадку, калі супрацоўніцтва не заладзіцца, новы камбінат будзе шукаць іншых пасрэднікаў-партнёраў альбо гандляваць каліем на сусветных рынках самастойна.

Дарэчы, яшчэ нядаўна геолагі пацвердзілі, што выяўленыя запасы руды з 4-х калійных гарызонтаў пад зямлёй велізарныя і складаюць 311,3 млн. тон.

Меркавалася, што гэта сыравіна і ў далейшым спатрэбіцца для далейшай працы "Беларуськалія", які меркаваў праектаваць пабудову новага свайго рудніка магутнасцю здабычы да 5 млн. тон штогод. Першапачаткова і кітайцы быццам былі гатовы ўкласці ў распрацоўку новага рудніка да 2 млрд. USD, але далей канкрэтных крокаў яны не зрабілі.

Зімой гаварылася, што цікавасць да радовішчаў солі праяўляюць і канадцы, фірма з Расіі, але самым "прабіўным" аказаўся гэты расійскі алігарх з амбіцыйнымі планамі ў далейшым вырабляць да 5-10 млн. тон угнаенняў. Для беларусаў і найперш жыхароў Салігорска цяпер хвалюе пытанне, каго мы атрымаем на сваёй зямлі – надзейнага партнёра альбо бязлітаснага канкурэнта са з'яўленнем "Слаўкалію"? Справа ў тым, што гэтыя перамовы і дэталі падпісаных дамоўленасцяў пакрыты завесай сакрэтнасці. Многае, як і іншае ў Беларусі, застаецца за кадрам. Невядома, па якіх правілах, хутчэй за ўсё, канкурэнт "Беларуськалію" будзе гуляць на рынку, ці будзе ён плаціць экспартныя пошліны, субсідзіраваць беларускі рынак, спансіраваць той жа беларускі хакей. Не хацелася б толькі аднаго: каб у чарговы раз ад продажу значнай сыравіннай базы выручаныя грошы мы проста праелі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 20.10.11 | | | | пятн. 21.10.11 | | | | сб. 22.10.11 | | | | нядз. 23.10.11 | | | | пн.24.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +5 | +5 | +7 | +5 | +5 | +3 | +5 | +3 | +1 | +1 | +6 | +5 | +5 | +4 | +7 | +4 | +2 | +2 | +6 |
| Ціск, мм | 747 | 749 | 749 | 748 | 748 | 749 | 750 | 752 | 754 | 755 | 755 | 754 | 754 | 755 | 756 | 756 | 756 | 757 | 756 |
| Вільготнасць, % | 94 | 98 | 90 | 95 | 95 | 92 | 79 | 89 | 94 | 96 | 82 | 79 | 77 | 82 | 69 | 85 | 91 | 93 | 72 |
| Вецер м/сек | Ю-З 4 | Ю-З 4 | Ю 3 | Ю 3 | З 3 | Ю-З 6 | З 5 | З 3 | З 3 | Ю-З 5 | Ю-З 6 | З 5 | З 5 | З 5 | З 4 | Ю-З 2 | Ю 3 | Ю-З 4 | З 3 |
| | | 07:48 | 17:59 | | | 07:50 | 17:56 | | | 07:52 | 17:54 | | | 07:54 | 17:52 | | | 07:57 | 17:49 |
| | | 00:07 | 15:04 | | | 00:14 | 15:26 | | | 01:36 | 15:45 | | | 03:00 | 16:03 | | | 04:27 | 16:21 |

## Дзень за днём

**З-за прабдем з валютай і невядомых цэн на энерганосьбіты зацягнулася праца над праектам дзяржбюджэту-2012. У будучым годзе, як заявіў урад РБ, аб'ёмы эмісійнага фінансавання айчыннай эканомікі будуць рэзка абмежаваны, будзе праводзіцца жорсткая грашовая і бюджэтна-падатковая палітыка. На працягу 6 месяцаў, да канца сакавіка 2012 года, Беларусь увяла забарону на вываз рапсу, лёну і алею. Кошт паліва ў краіне дасягнуў фактычна таго ўзроўню, з якога па-папулісцку было загадана вярнуць цэны назад. Беларусам у Мытным саюзе дазволілі ўвозіць самалётам тавараў на суму да 10 тысяч еўра, а вось арганізацыя любога збору,дзе больш за 3-х грамадзян, зараз павінна быць санкцыянавана ўладамі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Урад краіны прыняў цяжкае рашэнне па скарачэнні 30 тысяч дзяржаўных служачых у рамках эканоміі расходаў і стварэння так званага працоўнага рэзерву.

**Расія.** Адрадзіць СССР нерэальна, напісаў у "Известиях" Уладзімір Пуцін, аднак на базе АЭП і Мытнага саюзу можна стварыць новы Еўразійскі саюз, у тым ліку і з Беларуссю .

**Швецыя.** Падчас 110 Нобелеўскага тыдня ў Стакгольме сталі вядомыя імёны лаўрэатаў сусветна вядомай прэстыжнай прэміі за 2011 год у навуцы, эканоміцы, палітыцы.

**Турцыя.** Краіна спыніла кантракт з 1986 года аб пастаўках расійскага прыроднага газу на захад праз тэрыторыю Украіны, Румынію і Балгарыю, бо скончыўся тэрмін яго дзеяння.

**Польшча.** Канфлікт паміж афіцыйным Мінскам і ЕС, заявіў прэм'ер-міністр Дональд Туск, можа каштаваць Беларусі многіх мільярдаў еўра недаатрыманай дапамогі.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ зноў выказалася за працяг дыялогу з Беларуссю, аднак падпісала ў Варшаве жорсткую дэкларацыю дзяржаў Еўрасаюзу па сітуацыі ў РБ.

**Самалі.** У сталіцы найдзвычай беднай краіны Магадзіша ў выніку тэракту загінула каля 120 чалавек, моцны выбух смяротніка-ісламіста цалкам разбурыў галоўны ўрадавы будынак.

**Італія.** У правінцыі Бергама 8-гадовы хлопчык з Беларусі, які адпачываў там па чарнобыльскай праграме, упаў на веласіпедзе ў басейн, які быў амаль без вады, і трагічна загінуў.

**ЗША.** Пракуратура штата Тэхас вызваліла з турмы пасля 25 гадоў адсідкі невінаватага Майкла Мортана за быццам забойства жонкі. Толькі зараз выявілі сапраўднага злачынцу.

**Куба.** Упершыню пасля рэвалюцыі 1959 года ўлады дазволілі кубінцам прадаваць і купляць аўтамабілі, хоць зрабіць гэта нерэальна пры сярэдніх заробках 20 $ у месяц.

**Нігерыя.** На поўначы краіны ўзброеныя аўтаматамі і нажамі вяскоўцы забілі 20 жыхароў суседняй вёскі, помсячы за ранейшы аналагічны інцыдэнт.

**Саудаўская Аравія.** Кароль памілаваў Шэму Гасалію і адмяніў прыгавор суда – 10 удараў бізуном, вынесены за тое, што жанчына села за руль аўтамабіля і ездзіла па горадзе.

**Германія.** За 17 дзён буйнейшага ў свеце піўнога фестывалю ў Мюнхене з 6,9 млн. гасцей атруціліся алкаголем 777 чалавек, было выпіта 7,5 млн. літраў піва, з'едзена 118 быкоў.

**Расія.** Прымадона сцэны Алла Пугачова ў 3-і раз стала бабуляй, у 25-гадовага пляменніка нарадзіўся сын, і цяпер род Пугачовых не знікне. Зорка эстрады паабяцала сваім родным кватэру.

**Украіна.** ЧЕ-2012 па футболе ўжо прынёс першыя дывідэнты: 4 сучасныя аэрапорты і суперстадыёны, а таксама палепшаныя дарогі, транспартныя развязкі, гатэлі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Беларусь не мае рэсурсаў, па ацэнцы экспертаў, для будаўніцтва АЭС, новыя дзяржкрэдыты РФ – 6-10 млрд. $ – проста падарвуць параметры эканамічнай бяспекі краіны.

**Мінск.** З-за аварыі на падстанцыі жыхары чатырох раёнаў сталіцы больш за 4 гадзіны былі без электрычнасці і вады, спыніліся 7 маршрутаў трамваяў і тралейбусаў, 21 ліфт з людзьмі.

**Глуск.** Раён застаўся адзіным на Магілёўшчыне, дзе знізіўся сёлета продаж гарэлкі, аднак паўсюдна ў вобласці на 12 % вырас продаж віна, што выклікала яшчэ 2500 злачынстваў.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ, па дадзеных Мінфіна, стаў самым праблемным прадпрыемствам Беларусі, яго страты толькі ў 2-м квартале гэтага года перавысілі 180 млрд. рублёў.

**Мінск.** Наступны год, як заявіла старшыня Нацбанка Надзея Ермакова, будзе цяжкім для ўсіх, прыйдзецца жыць па сродках, золатавалютных рэзерваў хапае цяпер на 1-2 месяцы.

**Салігорск.** Са згоды кіраўніцтва РБ расійскі алігарх Міхаіл Гуцарыеў рашыў да 2017 года пабудаваць 2-гі калійны камбінат коштам 1,5 млрд. $ на 1500 новых рабочых месц.

**Ліда.** Працэс прыватызацыі і продажу дзяржпакета акцый ААТ "Харчовыя канцэнтраты" зноў сарваўся з-за ціску на Дзяржмаёмасць кіраўніцтва вобласці і "Белдзяржхарчпрама".

**Шчучын.** Прама на полі ля вёскі Шарупы 56-гадовая жыхарка Гродна забіла палкай з-за рэўнасці свайго 72-гадовага мужа, на Гродзеншчыне сёлета гэта ўжо 11-е такое злачынства.

**Крычаў.** У райцэнтры засталася беспрацоўнай жонка выдаўца і рэдактара незалежнай газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, ёй не прадоўжылі кантракт у ліцэі № 4.

**Брэст.** Раніцай на станцыі Брэст-Цэнтральны кінуўся нечакана пад колы пад'язжаўшага цягніка з Гомеля і адразу памёр 41-гадовы машыніст лакаматыўнага дэпо.

**Кобрын.** Родныя рэдактара ў вядомым сайта Charter97 Наталлі Радзінай парадаваліся прысудженню ёй Міжнароднай прэміі Камітэта абароны журналістаў за свабоду прэсы.

**Столін.** Рыбацкае шчасце зноў напаткала жыхара вёскі Белауша Сяргея Сеня, які на рацэ Гарынь злавіў спінінгам сама-велікана вагой 51,5 кг і даўжынёй 2 метры 22 сантыметры.

**Касцюковічы.** У канцы працоўнага дня ў цэху абпалу на Беларускім цэментным заводзе абыўся выбух, загінуў 22-гадовы рабочы, сёлета тут гэта ўжо 2-і выпадак гібелі людзей.

**Нясвіж.** Калегія Міністэрства культуры абрала райцэнтр культурнай сталіцай Беларусі 2012 года, тут пабываюць шматлікія прафесійныя калектывы, узрасце лік турыстаў.

**Мядзель.** У спіс сямі цудаў Беларусі, складзены "Народнай газетай", ўвайшлі адразу дзве славутасці раёна: старажытны касцёл у вёсцы Будслаў і буйнейшае ў краіне возера Нарач.

## У кожным абласным цэнтры Беларусі плануецца стварыць рэабілітацыйныя аддзяленні для алкаголікаў



■ **Анастасія Янушэўская, БелаПАН.**

**У кожным абласным цэнтры Беларусі плануецца стварыць дзяржаўныя рэабілітацыйныя аддзяленні для людзей, якія пакутуюць на алкагалізм, паведаміў загадчык сектара наркалогіі Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя Уладзімір Максімчук 13 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, дзяржаўныя рэабілітацыйныя аддзяленні пачалі адкрывацца ў Беларусі ў апошнія гады, пакуль іх не ўдалося стварыць у Брэсце і Магілёве.

Праграма па рэабілітацыі разлічана на месяц. Як паведаміў спецыяліст, на першым этапе ў алкаголіка здымаецца запой, затым "вядзецца праца па стварэнні неперадоснасці алкаголю". Задача праграмы, зазначыў Максімчук, "дапамагчы хвораму на алкагалізм жыць цвяроза сярод тых, хто п'е", здолець адаптавацца да атачэння. У аддзяленнях вялікая ўвага надаецца псіхатэрапеўтычным і псіхалагічным прыёмам лячэння. Апрача таго, да працы з хворымі па магчымасці прыцягваюцца людзі, якія маюць хімічную залежнасць ад алкаголю або наркотыкаў, але ўстрымліваюцца ад злоўжывання ўжо дастаткова працяглы тэрмін. Вялікая ўвага надаецца працы з сям'ёй: часта нават пры лячэнні сваякі працягваюць бачыць у чалавеку "п'яніцу, які нарабіў шмат бедаў", ім неабходна растлумачыць, што імкненне хворага быць цвярозым варта падтрымаць.

Як зазначыў Максімчук, у перспектыве плануецца больш актыўна ўцягваць у працу па лячэнні і прафілактыцы алкагалізу адпаведныя грамадскія арганізацыі, якіх у Беларусі каля 30. Апрача таго, пры жаданні хворы можа звярнуцца ў прыватныя цэнтры. Некаторыя з іх прапаноўваюць працяглую праграму рэабілітацыі, разлічаную на год-паўтара.

Як зазначыў спецыяліст, злоўжываннем лічыцца спажыванне спіртных напояў ад пяці разоў у месяц і часцей. Па дапамогу да спецыялістаў таксама варта звяртацца, калі ў сувязі з ужываннем алкаголю ў чалавека змяніліся паводзіны: ён стаў няўважлівым, неабавязковым, ілжывым і гэтак далей. Максімчук падкрэсліў, што галоўнай умовай паспяховага лячэння з'яўляецца гатоўнасць пацыента, усведамленне ім праблемы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Глыбокае.** Маніторынг і пазапланавая праверка абласнога Камітэта дзяржкантролю выявілі парушэнні правілаў гандлю ва ўсіх правераных крамах горада і ў вёсках раёна.

**Віцебск.** Са значнымі цяжкасцямі сутыкнуліся аўтапаркі ААТ "Віцебскаблаўтатранс", іх страты ад перавозак толькі ў першым паўгоддзі перавысілі сёлета 5,375 млрд. рублёў.

**Наваполацк.** Малады мясцовы дызайнер Ганна Лукашок заняла 2-е месца ў конкурсе на навагодняе афармленне Масквы, атрымала прэмію 35 тыс. расійскіх руб. (больш за 1000 $).

**Віцебск.** Раней адпраўленага ў адстаўку пракурора вобласці Генадзя Дыско адналілі ў пасадзе, загад аб гэтым падпісаў новы беларускі генеральны пракурор Аляксандр Канюк.

**Лепель.** Пансіянат "Лодэ" расшырыўся для прыёму ўжо 120 адпачываючых, зімой госці змогуць катацца на конях, лыжах, санках і каньках.

**Ушачы.** У жылы сектар райцэнтра пачалі штодзённа падаваць гарачую ваду, для ацяпляльнага сезона райкамунгас нарыхтаваў 9,7 тысяч кубаметраў дроў і шчапы.

**Шуміліна.** Упершыню на 20 дамах шматдзетных сем'яў паставілі самыя сучасныя гукавыя пажарныя апавяшчальнікі, у раёне сёлета няма загінуўшых у агні, летась было 14.

**Орша.** Вечарам 27-гадовы жыхар Барані на аўто збіў насмерць 80-гадовага веласіпедыста, за 3 сутак на Віцебшчыне такім чынам загінулі на дарозе яшчэ 2 пенсіянеры на роварах.

**Глыбокае.** Згушчонае малако мясцовага МКК выйграла тэндар Міністэрства аховы здароўя Малдовы і ўключана ў абавязковы набор харчавання для малдаўскіх донараў.

**Паставы.** Прама на полі ноччу падчас пажару ў драўляным вагончыку загінуў 57-гадовы пастух-вартаўнік з вёскі Белянішкі, у раёне адбылося ўжо 45 пажараў, загінула 8 чалавек.

**Браслаў.** У азёрным краі зарэгістравалі 140 аграгурыстычных гаспадарак, па іх колькасці раён выйшаў на 1-е месца ў РБ і ў вобласці, распрацаваны 12 турмаршрутаў.

**Дуброўна.** Пра райцэнтр і яго жыхароў зняла двухсерыйны відэафільм украінская тэлерадыёкампанія з Днепрапятроўска.

**Мёры.** Вядомы настаўнік-краязнаўца Вітольд Ермалёнак пачаў ствараць у двары СШ №3 этнаграфічны музей, раней ён наладзіў тут выпуск газеты "Мёрская даўніна".

**Сянно.** Амаль тысячу ўдзельнікаў ад 2 да 75 гадоў сабраў у райцэнтры традыцыйны XXIII лёгкаатлетычны прабег памяці знакамітага земляка, кіраўніка БССР Пятра Машэрава.

**Віцебск.** Сцены адроджанага Свята-Успенскага кафедральнага праваслаўнага сабора ўпрыгожаць лікі святых, у новым храме змяшчаецца да 3 тыс. вернікаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Глыбокім прайшла сельская абласная занальная спартакіяда

■ Яўген Самсонаў

**16 кастрычніка ў Глыбокім праходзіла сельская абласная занальная спартакіяда.**

Удзел прынялі Верхнядзвінскі, Пастаўскі, Мёрскі, Браслаўскі, Шаркоўшчынскі і Глыбоцкі раёны.

Спаборнічалі сельскія спартсмены ў васьмі відах спорту: валейболе (мужчынскі і жаночы), мініфутболе, лёгкай атлетыцы, стрытболе (разнавіднасць баскетболу), настольным тэнісе, гіры і перацягванні каната.



У агульнакамандным заліку званне пераможцаў заваявалі спартсмены Верхнядвінскага раёна. Яны і будуць далей адстойваць права на ўдзел у Рэспубліканскіх спаборніцтвах. На другім месцы – гаспадары спаборніцтваў – глыбачане. Трэцім прызёрам сталі сельскія спартсмены з Браслаўскага раёна.



Футбалісты каманды "Шуневічы" Глыбоцкага раёна.

# «Белнафтахім» дзявяты раз за год павысіў рознічныя цэны на нафтапрадукты: бензін – на 3%, дызпаліва – на 5%

**Канцэрн «Белнафтахім» аб'явіў пра чарговае, дзявятае з пачатку года, павышэнне адпускных і рознічных цэн на нафтапрадукты. 16 кастрычніка бензін падаражэў у сярэднім на 3%, дызельнае паліва — на 5%.**

Паводле інфармацыі канцэрна, якая з'явілася на яго сайце за пяць хвілін да поўначы, кошт бензіну Нармаль-80 складае 4.740 рублёў за літр (+140, ці 3,04%), Аі-92 — 4.970 (+150, ці 3,11%), Аі-95 — 5.360 (+160, ці 3,08%), дызпаліва — таксама 5.360 (+260, ці 5,10%).

Цэны павялічаны «ў мэтах павышэння эфектыўнасці працы нафтаперапрацоўчых заводаў». Акрамя таго, у адпаведнасці з пастановай праўлення Нацыянальнага банка ад 7 верасня 2011 года № 368 «Аб здзелках куплі-продажу замежнай валюты на ўнутраным валютным рынку» набыццё валюты для закупкі нафтавай сыравіны нафтаперапрацоўчыя заводы ажыццяўляюць на дадатковай гандлёвай сесіі Беларускай валютнафондавай біржы па рынкавым курсе.



Папярэдняе павелічэнне цэн адбылося 1 кастрычніка. Тады прычынамі росту называлі куплю валюты на дадатковай сесіі і неабходнасць «паэтапнага выраўноўвання цэн на тавары ў краінах Мытнага саюза».

Раней кошт паліва павялічваўся 3 сакавіка (у сярэднім на 5%), 31 сакавіка (на 10%), 24 мая (на 20%), 7 чэрвеня (на 30%), 21 ліпеня (на 3%), 20 жніўня (на 3%) і 14 верасня (на 3%). 9 чэрвеня паводле патрабавання Аляксандра Лукашэнкі, якое прагучала на наступны дзень пасля масавай акцыі мінскіх аўтамабілістаў «Стоп-бензін», цэны былі зніжаны на 13—22%.

З пачатку года Нармаль-80 падаражэў у 2,11 разу, Аі-92 — у 1,73 разу, Аі-95 — у 1,65 разу, дызпаліва — у 2,08 разу.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# Продаж гарэлкі ў Беларусі вырас больш чым на 17%

**У Беларусі працягвае расці аб'ём продажу гарэлкі.**

Паводле звестак Белстата, у студзені—верасні 2011 года рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 17,3% у параўнанні з такім жа леташнім перыядам. Прададзена 8 млн. 934,3 тыс. дал гарэлкі, яе доля ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 45% (у студзені—верасні 2010 года — 42,9%).

Доля рэалізацыі алкагольнай прадукцыі ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту ў студзені—верасні 2011 года склала 10,3%. На спажывецкім рынку рэалізавана алкагольных напояў і піва на 5,6 трлн. рублёў.

Піва за дзевяць месяцаў прададзена 26 млн. 669,7 тыс. дал, што на 12,8% больш за аналагічны леташні паказчык. Доля гэтага напою ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю склала 13,4% (за студзень-верасень 2010 года — 13,3%).

Лікёра-гарэлачных вырабаў рэалізавана 1 млн. 572,3 тыс. дал (+35,6%), вінаградных він — 2 млн. 327,7 тыс. дал (больш на 15,7%), пладовых він — 12 млн. 582,4 тыс. дал (менш на 0,2%). Пладовыя віны занялі 28,5% у аб'ёме продажу алкагольнай прадукцыі (у студзені-верасні 2010 года — 31,9%).

Каньяку і брэндзі прададзена 246,7 тыс. дал (на 38,1% больш), пеністых він і шампанскага — 944,7 тыс. дал (на 24,6% больш), слабаалкагольных напояў — 653,7 тыс. дал (менш на 31,5%).

*Марына Носава, БелаПАН*

# Шэсць бамжоў замерзлі ў мінулыя выхадныя ў Мінску

**Следчы аддзел пракуратуры Мінска праводзіць праверку па факце смерці ў выніку пераахалоджання ў апошнія дзве ночы ў сталіцы шасці чалавек.**

Як паведамілі БелаПАН у гарадской пракуратуры, усе загінуўшыя — мужчыны без пэўнага месца жыхарства. Усе былі знойдзены на вуліцах у Партызанскім, Цэнтральным, Кастрычніцкім і Першамайскім раёнах, адзін — ужо мёртвым. Астатнія пацярпелыя памерлі ў бальніцы.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# У Гродне затрыманы верхавод міжнароднай злачыннай групы, які абрабаваў банкі ў Германіі на 800 тысяч еўра

Супрацоўнікі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі сумесна з паліцыяй ФРГ спынілі дзейнасць міжнароднай злачыннай групы, якая рабавала нямецкія банкі.

Як паведаміў БелаПАН начальнік упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Канстанцін Шалькевіч, адным з лідараў групоўкі аказаўся грамадзянін Беларусі, 29-гадовы жыхар Гродна. Ён затрыманы. Разам з іншымі злачынцамі стварыў міжнародную злачынную арганізацыю, якая спецыялізавалася на рабаванні нямецкіх банкаў. Устаноўлены 34 узброеныя напады на банкаўскія ўстановы ў ФРГ, выкрадзена больш за 800 тысяч еўра. Атрыманыя грошы накіроўваліся ў Гродна і размяркоўваліся лідарам злачыннай арганізацыі сярод астатніх удзельнікаў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# На 1 верасня запазычанасць Беларусі за прыродны газ склала 52,4 млн. долараў

На 1 верасня знешняя запазычанасць Беларусі за імпартаваны прыродны газ склала 267,4 млрд. рублёў, ці 52,4 млн. долараў па афіцыйным курсе на 1 верасня (5.107). Аб гэтым паведамляе Белстат у дакладзе аб сацыяльна-эканамічным развіцці краіны ў студзені—верасні 2011 года.

Раней крыніцы, блізкія да перамоў аб газавых пастаўках паміж Беларуссю і Расіяй, паведамлялі аб запазычанасці ў 100 млн. долараў.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Беларусь нібыта папрасіла «Газпрам» аб адтэрміноўцы пагашэння доўгу і прапанавала размеркаваць суму запазычанасці на роўныя долі і ажыццявіць выплаты ў 2012 годзе або ўключыць доўг у цану на газ.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН.*

# Канстанцін Шыталь прыгавораны да штрафу ў 105 тысяч рублёў

Глыбоцкі журналіст Канстанцін Шыталь прыгавораны да штрафу ў 105 тыс. рублёў (тры базавыя велічыні). Такое рашэнне 17 кастрычніка прыняў раённы суд Мёраў (Віцебская вобласць), паведаміў БелаПАН адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі.

Журналіст інфармацыйнага сайта westki.info быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў прыгарадзе Мёраў 7 кастрычніка прыкладна ў 17.00. На аўтамабілі аўтаспынам ён накіроўваўся з Глыбокага ў Дзісну. За 5 км да Мёраў аўтамабіль спынілі супрацоўнікі ДАІ. Яны паведамілі, што журналіст затрыманы для праверкі, ці не звязаны ён з крымінальным эпізодам, які здарыўся на дарозе Глыбокае-Шаркоўшчына, дзе нібыта абрабавалі машыну. Шыталь абвінавачваўся ў тым, што на просьбу прад'явіць дакументы ён адказаў лаянкай.

З 7 па 10 кастрычніка Шыталь знаходзіўся пад вартай. 10 кастрычніка Мёрскі раённы суд адклаў разгляд справы ў сувязі з неабходнасцю азнаямлення з паказаннямі супрацоўнікаў ДАІ з Шаркоўшчыны. Шыталь быў вызвалены, а пасяджэнне суда перанесена на 17 кастрычніка.

«17 кастрычніка на судовым пасяджэнні выступілі супрацоўнікі ДАІ, якія затрымалі Шыталя. Яны сцвярджалі, што Шыталь сапраўды ў адказ на просьбу прад'явіць дакументы адказаў лаянкай. Суд прыняў да ўвагі іх доказы і прызначыў журналісту штраф», – паведаміў Садоўскі.

Сам Шыталь лічыць, што яго хацелі ізаляваць напярэдадні правядзення Народнага сходу.

*Сяргей Пульша, БелаПАН.*

**НАРОДНАЯ ПРАГРАМА**



www.prahrama.by

**Тэма, якая сёння прапанаваная ўвазе нашых чытачоў для абмеркавання, вельмі знітаваная з тымі, што мы ўжо разглядалі на старонках нашае газеты.**

**Напрыклад, у інтэрв'ю з глыбоцкім бізнесоўцам Святаславам Пацэвічам усплывала тэма аб уласнасці на зямлю («ВГ» №37/2011 г). Бізнесовец выказаўся адназначна: павінен быць прыняты закон аб свабоднай куплі-продажы зямлі, а значыць, і прыватнай уласнасці на яе. Без гэтага закона мы не можам рухацца наперад, ніхто не будзе інвеставаць грошы ў нашу краіну.**

**У артыкуле «Жыць у адпаведнасці з законамі прыроды» («ВГ» №34/2011 г.) мы распавялі аб сям'і Мірашнічэнкаў, якія пакінулі добраўпарадкаваную 3-пакаёвую кватэру ў Глыбокім і пераехалі жыць у вёску Маргі, дзе займаюцца не зусім традыцыйным спосабам вядзення сельскай гаспадаркі.**

**Ужо гэтыя два матэрыялы паказваюць на актуальнасць пытання аб праве прыватнай уласнасці на зямлю.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Беларуская зямля:
## ва ўласнасці сялянаў, дзяржавы ці замежнікаў?

Ёсць старое, як гэты свет, выказванне, якое мы памятаем са школьнай парты з урокаў гісторыі, а менавіта з тэмы " Вялікая Кастрычнікая рэвалюцыя ў Расіі": «зямля – сялянам, фабрыкі і заводы – рабочым». Рэвалюцыя перамагла, і сяляне нібыта атрымалі зямлю, а рабочыя – фабрыкі і заводы. І жылі ўсе па прынцыпе "ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё!" Значыць, усіхняе, але не маё.

Праўдай-няпраўдай беларуская вёска прыняла і дзесяцігоддзямі выконвала парадак, навязаны ёй дзяржавай у сельскай гаспадарцы. У часе калектывізацыі сяляне пачалі ўступаць у калгасы, аддаючы туды усё тое, што нажылі цяжкай працай: карову, каня, плугі, бароны, гаспадарчыя пабудовы. Хоць і не міла было працаваць не на сябе, але іншага выйсця не было, інакш – рэпрэсіі, вываз у Сібір.

Да Мікіты Хрушчова сяляне былі зусім паднявольныя, не маглі мець нават пашпартоў. Толькі калгас – і ніякіх варыянтаў! Праца ад світанку да змяркання.

Таленавіты юнак ці дзяўчына не мелі ніякіх шанцаў выехаць з калгасу і паступіць у ВНУ ці тэхнікумы. Праўда, за выключэннем тых выпадкаў, калі атрыманне вышэйшай ці сярэднеспецыяльнай адукацыіі звязана з прафесіяй, неабходнай самому калгасу. Лічаныя людзі змаглі неяк разарваць путы і выехаць на жыхарства ў горад, стаць рабочым.

Магчымаць атрымаць пашпарт у часы «хрушчоўскай адлігі» прывяла да таго, што народ з вёскі пачаў з'язджаць: то на ўдарныя камсамольскія будоўлі, то на асваенне цаліны, то проста ў горад за высокімі заробкамі. Аказалася, калгас – не такі ўжо і рай. Усе нашыя гарадкі і гарады збольшага заселеныя колішнімі вясковымі жыхарамі. Вёска пачала занепадаць, дабіў вёску у рэшце рэшт дэмаграфічны ўпадак 1990-х гг.

Але ў нас ёсць і іншыя гістарычныя прыклады.

Воляй лёсу і гісторыі Глыбокае і заходняя частка Беларусі пасля Рыжскай дамовы 1921 года апынулася ў складзе Другой Рэчы Паспалітай. Аўтару гэтых радкоў у працэсе краязнаўчых даследаванняў, вандровак па Глыбоччыне неадноычы даводзілася сутыкацца з такім фактам: людзі яшчэ й сёння перахоўваюць дзедавы "паперы" з часоў царскай Расіі альбо з так званых "польскіх часоў" аб факце куплі-продажы зямлі. З усімі пячаткамі і подпісамі пана, каморніка, натарыуса. Нават унукі яшчэ вераць, што прыйдуць некалі тыя часы, калі можна будзе вярнуць дзедаў фальварак.

Валодаць сваёй зямлёй у нашых людзей было нясцерпнай марай, мэтай жыцця. Ашчаджалі грошы, ездзілі на заробкі ў Амерыку, Францыю, Швейцарыю… Працавалі там на шахтах, лесапавале, зараблялі грошы, вярталіся на радзіму, набывалі зямлю. Во, я разумею – патрыятызм! Не патрэбны быў заморскі рай, свая радзіма – перадусім. Не зважаючы на тое, што ўсе мелі магчымасць застацца там. Чалавек хацеў быць Гаспадаром тут, дзе нарадзіўся! І быў!

Некаторыя, праўда, дзеля справядлівасці сказаць, захацелі застацца. Ну, напрыклад, паехалі з Пастаўшчыны тры браты па прозвішчу Куст на заробкі ў Францыю: зарабілі, двое вярнулася дадому, трэці прыжаніўся – застаўся. Вось і з'явіўся потым на свет такі слынны даследчык акіянаў як Жак Іф Кусто.

Да 1939 года ў вёсцы Перавоз было 8 двароў. Як апавядаў аўтару гэтых радкоў старажыл вёскі Канстанцін Андрэевіч Курылёнак, 1919 г.н., у кожнай сям'і было 7-8 дзяцей. Вы ўявіце, што толькі з Перавоза "з шасці хатаў – дванаццаць мальцаў, на дзень Пятра й Паўла хадзіла на фэст у Галубічы"!

Не трэба вялікай фантазіі, каб уявіць, як бы выглядалі сёння нашыя вёскі, калі б стан рэчаў заставаўся непарушным да нашых дзён. Гэта значыць, каб права наследавання на прыватную ўласнасць на зямлю з усімі пабудовамі пераходзіла з пакалення ў пакаленне. Нашыя вёсачкі выглядалі б не горш, чым у той Галандыі ці Швейцарыі. Стаялі б не пахілыя хаціны, а катэджы. Нехта займаўся б фермерствам, гадаваннем высокапародзістых коняў на продаж, нехта выраблаў бы сыры, іншы продажам саджанцаў пладовых дрэў. Тут быў бы сэнс мець у сям'і шмат дзяцей, бо трэба нажытое камусьці перадаць у спадчыну, а каму, як не дзецям.

Прайшло больш за 70 гадоў, калі нас адвучылі быць гаспадарамі сваёй зямлі. І калі б, гіпатэтычна, заканадаўча была замацаваная ў Канстытуцыі свабодны купля-продаж зямлі, то ці шмат бы знайшлося ахвотных яе набыць? Відавочна – адзінкі! Адвучылі народ быць гаспадарамі зямлі. Знікла традыцыя перадаваць зямлю ад дзядоў, бацькоў у спадчыну сыну ці дачцэ. Гэтая традыцыя зышла разам з тымі, хто жыў і памятаў тыя часы, калі была прыватная ўласнасць на зямлю.

– Сітуацыя ў аграрным сектары эканомікі блізкая да крытычнай,– лічыць Міхаіл Залескі, эксперт Народнай Праграмы.

– Зямля павінна быць ў прыватнай ўласнасці тых, хто яе апрацоўвае.

– Дзясятая частка насельніцтва вядзе вытворчасць на забруджаных радыяцыяй глебах; узрастае імпарт харчовай прадукцыі канкурэнтнай айчыннай; занепадае многства галінаў сельскагаспадарчай вытворчасці; нарастае разрыў ў якасці жыцця вясковага і гарадскога насельніцтва; у шэрагу вясковых раёнаў дэпапуляцыя набыла незваротны характар; працоўная актыўнасць і якасць працы наёмных работнікаў па-за межамі прыватных гаспадарак няўхільна зніжаюцца; дэградацыя працоўных рэсурсаў вёскі імкліва паскараецца; фінансавы стан прадпрыемстваў – варты жалю.

Усё гэта пагражае нацыі, зніжае бяспеку нашага існавання.

Каб выправіць сітуацыю, трэба назваць рэчы іх сапраўднымі імёнамі.

Трэба пагадзіцца, што калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў 1929-1959 г.г. не была выкліканая ў нашай краіне эканамічнай неабходнасцю, а з палітычнаю мэтаю – пераўтварыць саслоўе сялянаў, каторае «штодзённа рэпрадукавала капіталізм» (Ленін) ў дзяржаўных батракоў-пралетарыяў.

Трэба прызнаць, што правесці справядлівае вяртанне земляў былым ўласнікам і іх нашчадкам ў нашай краіне ўжо немагчыма з прычынаў адсутнасці дакументальных сведчанняў і зменаў у структуры землекарыстання.

Трэба прызнаць роўныя зямельныя правы ўсіх вытворцаў таварнай сельскагаспадарчай прадукцыі на дзяржаўныя датацыі.

Трэба заканадаўча вызначыць статус сялян як спецыфічнай групы (саслоўя), чый лад жыцця непарыўна звязаны з вытворчасцю і эканамічнымі адносінамі вакол яе.

Трэба вызначыцца са статусам сялянскага двара (гаспадаркі) як спецыфічнага тыпу прадпрыемства і ўнесці адпаведныя змены ў заканадаўства.

Трэба правесці перапіс і межаванне ўсіх земляў сельскагаспадарчага прызначэння і ацаніць іх якасць з улікам аддаленасці ад рынкаў збыту.

Трэба распрацаваць зямельны падатак і ўмовы іпатэкі, а таксама стварыць неабходныя ўстановы.

Гэта мінімальныя папярэднія дзеянні дзеля таго, каб пачаць падступацца да аграрнай рэформы. Яны і павінны быць абмеркаваныя ў першую чаргу.

Бо аграрная рэформа – аперацыя без наркозу на жывым сэрцы нацыі. Сэрцы, каторае ледзьве б'ецца.




План зямлі, якая была ва ўласнасці спадарства Усовічаў з фальварка Шалкова, які некалі знаходзіўся паміж Мнютай-2-ой і Шэпелевым. Напісана па-беларуску лацінскімі літарамі – **«PLAN ziamli kalonii ŠAŁKOVO Pliskaj vołasci, Pliskaha pavietu»** (Плян зямлі калёніі Шалково Пліскай воласці, Пліскага павету). Складзена ў чэрвені 1944 г. ←

**План фальварка Чэрамошнік Віленскай губерні Дзісненскага павету Глыбоцкай воласці, уладанне сялянаў Андрэя Юр'ева і Анэлі Андрэевай Шарабайка.** Складзена ў 1910 годзе. →




Фальварак Чэрамошнік знаходзіўся праз дарогу насупраць Варганскай гары. Яшчэ два гады таму, да акцыі «чыстыя палі», збоч дарогі яшчэ заставаліся ліпавыя прысады.

Заўважце, фальваркам валодала не шляхта, а звычайныя сяляне.

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Штотыдзень на тэрыторыі краіны спыняюцца сотні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства

**Супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь першараднае значэнне надаецца ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны. Штотыдзень дзяржінспектарамі на тэрыторыі краіны спыняюцца сотні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.**

Так, у перыяд з 3 па 9 кастрычніка 2011 г. Дзяржаўнай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь выяўлена 239 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, у тым ліку:

•96парушэнняўПравілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. У парушальнікаў канфіскавана 143 сеткі агульнай даўжынёй каля 7 км і 391 кг незаконна вылаўленай рыбы;

• 30 выпадкаў крадзяжу сажалкавай рыбы, 1001 кг выкрадзенай рыбы вернута рыбгасам;

•29парушэнняўПравілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, канфіскавана 14 паляўнічых стрэльбаў, у тым ліку 5 незарэгістраваных, і 1407 кг мясапрадукцыі з дзічыны;

• 64 парушэнні правіл лесакарыстання;

• 20 іншых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Некалькі прыкладаў затрымання парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства на тэрыторыі рэспублікі.

• 03.10.2011 працаўнікам Аршанскай міжрайінспекцыі ад дырэктара Талачынскай РОС РГГА «БТПР» паступіла паведамленне пра незаконную здабычу лася. Дзяржінспектары сумесна з супрацоўнікамі Талачынскай РОС РГГА «БТПР» выехалі на ўказанае месца, дзе выявілі рэшткі жывёлы (унутраныя органы, косці і галаву). На месца здарэння была выкліканая следча-аператыўная група Талачынскага РАУС. Падчас сумесных мерапрыемстваў' на адным з падвор'яў у п.Усвіж-Бук Талачынскага раёна канфіскаваныя дзве паляўнічыя стрэльбы і мяса ласі. Па факце незаконнай здабычы ласі Талачынскім РАУС у стаўленні аднаго з затрыманых узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.282 КК (незаконнае паляванне), якая пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры – 95 базавых велічынь.

• 07.10.2011 работнікам Мінскай міжрайінспекцыі паступіла паведамленне ад супрацоўніка ДЛГУ «Лагойскі лясгас» пра тое, што ў арандаваных паляўнічых угоддзях ажыццяўляецца незаконнае паляванне з выкарыстаннем транспартнага сродку. Прыбыўшы на месца, дзяржінспектарызатрымалі аўтамабіль «Фальксваген-Гольф», у якім знаходзілася трое грамадзян. Пры аглядзе ў багажніку аўтамабіля выяўлена туша зайца-русака, незарэгістраваная наразная зброя калібру 5,6 мм, снараджаная трыма патронамі і два асвятляльныя прыборы, якія падлучаны да акумулятара. На месца затрымання была выклікана следча-аператыўная група Лагойскага РАУС, які разглядае пытанне пра ўзбуджэнне крымінальных спраў па ч.4 арт.282 КК (незаконнае паляванне, здзейсненае з выкарыстаннем механічнага транспартнага сродку) і арт.295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў).

• 07.10.2011 работнікамі Пінскай міжрайінспекцыі і Іванаўскай РОС РГГА «БТПР» у паляўнічых угоддзях указанага карастальніка затрымана чацвёра парушальнікаў, якія ў начны час ажыццяўлялі незаконнае паляванне стрэльбавым спосабам з выкарыстаннем 2-х матацыклаў МТ-10-36. У іх канфіскаваны 2 матацыклы (адзін без нумарнога знака) і 3 незарэгістраваныя паляўнічыя стрэльбы. На месца затрымання была выклікана следча-аператыўная група Іванаўскага РАУС. Парушальнікі дастаўлены ў Іванаўскі РАУС. Праводзіцца праверка.

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету толькі за верасень 2011 года ў парушальнікаў канфіскавана 4 незарэгістраваных паляўнічыя стрэльбы.

5 кастрычніка 2011 года гаспадарчы суд Віцебскай вобласці цалкам задаволіў заяву Глыбоцкай міжраённай інспекцыі да ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» ў памеры 63 млн.661 тысяча 500 рублёў за забруджванне ракі Дабрылаўка і гібелі рыбы, што адбылося 1 чэрвеня 2011 года па віне прадпрыемства.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

■ Яўген Самсонаў

# Чаму адбываецца масавы мор куранят бройлераў?

– Напішыце ў сваёй газеце, што тыя кураняты бройлеры, якіх людзі куплялі ў камерсантаў, масава гінуць,– у роспачы звярнулася да мяне адна знаёмая, спадарыня Лена. – Усе 25 куранят, што набыла ў пачатку чэрвеня ля рынку (у раёне гарадской участковай ветлячэбніцы – аўт.), адзін за адным з цягам часу прапалі. Мне дакладна вядома, што і ў многіх маіх знаёмых, якія куплялі куранят бройлераў ля рынку, таксама ўсе загінулі. Асабіста я гадоўляй бройлераў займаюся амаль 20 год. Як іх даглядаць і вырошчваць, даўно спрактыкавалася. Ну, бывала, прападзе адзін ці два, а каб цэлая партыя – гэта ўпершыню. Не інакш, як кураняты былі заражаныя яшчэ з птушкафабрыкі. Пабачыце самі, колькі будзе званкоў ад людзей, якія набылі куранят у камерсантаў.

Не мінуў такі ж лёс і яшчэ аднаго глыбачаніна, назавём яго Генадзем, у якога адбыўся мор куранят.

– Напрыканцы траўня набыў па 20 штук у камерсантаў: у Тамары (з Варапаева) і ў Аляксандра (з Лагойска). Усіх 40 набытых куранят прыйшлося закапаць. Не так крыўдна было б, каб яны загінулі ў хуткім часе і ўсе адразу.

Куранят ён гадуе не адзін дзясятак гадоў. У тыя гады выраслі да 5 кілаграмаў, а сёлета былі нейкія слаба падобныя на куранят бройлераў, хоць і елі спраўна. Шмат часу і сродкаў было патрачана на догляд, корм, дабаўкі і лекі. Аднаго мяшка камбікорму, апроч іншага корму, на тыдзень не хапала. Па адным пачалі прападаць дзесьці месяцы праз два, у жніўні. Калі прыкінуць, як кажуць, "шчоцікі на дроцікі", то атрымаецца па цяперашніх коштах астранамічная сума, на якую пацярпеў бюджэт гаспадара.

Аўтар гэтых радкоў знайшоў кантакты камерсантаў-прадаўцоў. Пяцёра прыватных прадпрымальнікаў займаліся продажам курэй і куранят у Глыбокім: Аляксандр з Лагойска, Тамара, Лена, Наташа і Алег з Варапаева. Ад сваёй віны ў масавым моры куранят у Глыбокім адмаўляюцца. У прыватнасці, прадпрымальніца Тамара ў тэлефоннай размове патлумачыла, што набывалі яны куранят на птушкафабрыках Скідаля, Маладзечна, Фаніпаля. Куранят бройлераў атрымоўвалі згодна накладных з адпаведнымі сертыфікатамі і даведкамі, у адпаведнасці з існуючымі патрабаваннямі. Ад сваіх знаёмых, каму яна прадавала куранят, ніякіх скаргаў не было. Праз пару дзён яна перапэлефанавала і патлумачыла, што з нагоды нашай размовы пацікавілася ў сваіх знаёмых, якія набывалі ў яе куранят, ці адбыўся ў іх мор? Аказалася, што скаргі на мор куранят усё ж былі, але яе знаёмыя вінавацяць у гэтым якасць камбікорму.

Прадпрымальнік Алег зазначыў, што ён пакідаў сабе некалькі дзясяткаў куранят для далейшай гадоўлі. Усіх выгадаваў да 4 – 5 кг. Праўда, з той розніцай, што кураняты з Маладзечанскай птушкафабрыкі хоць былі і пазнейшымі, аказаліся значна лепшымі за прывезеных з Фаніпаля.

Ці толькі ў адным Глыбоцкім раёне меў месца масавы мор куранят бройлераў і ў чым прычына? Ці варта ўвогуле рызыкаваць займацца іх гадоўляй? Што думаюць наконт гэтага чытачы? Пытанне застаецца адкрытым.


Выгляд у бройлераў пануры.


Продаж курэй бройлераў у Глыбокім.




## Настассю Мікалаеўну Будзіч

**Ад усёй душы віншуем з 10-годзем!**

Всё самое прекрасное на свете
Пусть будет предназначено тебе:
Удача, счастье, радость и веселье,
В душе любовь, везение в судьбе!
Всегда такой же клёвой оставайся,
Дари друзьям тепло и доброту,
Талантами блистай и улыбайся
И в жизни повстречай свою мечту!

*Родныя.*

## Віктара Пятровіча Семежа

**Віншуем з днём нараджэння!**

Наш родной, любимый и бесценный,
Внимательный и чуткий человек.
Такого не найти во всей Вселенной,
Тебе за всё обязаны вовек.
Себе ты ни минуты не жалеешь,
Живёшь для близких и родных людей.
В беде, проблемах поддержать умеешь
И нету никого тебя мудрей!
Так в светлый праздник твоего рожденья
Ты наши поздравления прими.
Ты только будь! Ты нужен нам, любимый!
И пусть Господь тебя всегда хранит.

*Жонка, дзеці і ўнукі.*

## МНС інфармуе на 18.10.2011 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1091;
Гібель людзей – 154 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4128,3 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 52;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
Урон – 492 670 132 руб.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**24 – 30 кастрычніка 2011 г.**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 24 кастрычніка



**06.00, 07.05, 08.10** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**07.30, 08.25** Деловая жизнь.
**08.30** Культурные люди.
**09.10 "Лиговка"**
**10.05 "Маргоша"**
**11.00 "Умница, красавица"**
**12.10 "Любовь зла…"**
**13.40** Здоровье.
**14.10** Звёзды «Киношока».
**15.10, 19.20** Новости региона.
**15.30 "Война невест"**
**16.55 "Маргоша"**
**17.50 "Умница, красавица"**
**18.45** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55 "Лиговка"**
**21.00** Панорама.
**21.45** Командировка.
**22.00** Детектив **"Разумное сомнение"**
**00.10** День спорта.
**00.20** Хоккей для всех.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.10** «Наше утро».
**09.10** Контуры.
**10.15** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Затерянный мир».**
**12.00** «Вячеслав Добрынин. «Мир не прост, совсем не прост…».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. «Участковый детектив».
**16.55** «Большая разница».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Роман императрицы. Белорусская карта».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** «ДО РЕ: Вячеслав Бутусов».
**00.20** «След».
**01.05-01.35** Ночные новости.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05 "Барвиха"** (Россия).
**10.05** Альбарутения.
**10.35** Концерт «Madonna. The Confessions tour».
**12.30** Реальный мир.
**13.05 "Как жениться и остаться холостым"** (Франция).
**14.45** Навіны надвор'я.
**15.15** Женская лига.
**16.15** Врачебные тайны
**16.50** Военный боевик **"Покушение"** (Беларусь-Россия). 1-я серия.
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.00 "Барвиха"** (Россия).
**19.55** Женская лига.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Белорусское времечко.
**22.30** Овертайм.
**22.55** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**23.50** Военный боевик **"Покушение"** (Беларусь-Россия). 1-я серия.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Большой город».
**11.15** «Дальние родственники».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 "Огонь любви".**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви".**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** ПРЕМЬЕРА! «Кинопонедельник»: Владимир Ильин, Евгений Стычкин и Федор Добронравов в фильме **"НЕ НАДО ПЕЧАЛИТЬСЯ".** Россия, 2010 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».






**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10 "Малая Масква»**: 2 серыя
**9:00** Прэс-экспрэс
**9:15** Беларускія лёсы: «Тры кіламетры да неба», рэпартаж, рэж. Вольга Дашук, 2010 г., Беларусь
**9:35** ПраСвет
**10:00** Эксперт
**10:25** «**Проста невераготна!»**
**12:05** Дакументальная гадзіна: «Забытая флатылія»
**13:05** Эксперт
**13:30** ПраСвет
**14:00** Беларускія лёсы: «Тры кіламетры да неба», рэпартаж, рэж. Вольга Дашук, 2010 г., Беларусь
**14:15** «**Проста невераготна!»**
**15:55** Дакументальная гадзіна: «Забытая флатылія»
**17:00 "Таямніца Сагалі»**: 1 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05** Дакументальная гадзіна: «Забытая флатылія»
**19:00** «Сабачая будка», дак. фільм, рэж. Уладзімір Самойлаў, 2009 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Бялінскага, 6», дак. фільм, рэж. Караліна Беляўска (Karolina Bielawska), 2009 г., Польшча–Расея
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:50** «**Проста невераготна!»**
**23:30** Аб'ектыў
**23:55** Гарачы каментар

